Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТВА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 17—19 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 26 (51) | Вільня, 8-га сьнежня 1934 г. | Год 2-гі.

## Пачаткавае і профэсыянальнае школьніцтва.

II.

Справа сямігадовае пачаткавае школы ў галіне агульнае асьветы — гэта, як ужо гаварылася, ідэал, да каторага павінна імкнуцца польская асьветная палітыка. Аднак на хуткую рэалізацыю гэтага ідэалу разлічаць нельга, бо на гэта не пазваляюць ані агульны культурны ровень нашага грамадзянства, ані эканамічны стан нашага краю, ані ўрэшце дзяржаўныя магчымасьці Польшчы.

Гэта, відаць зразумела Міністэрства Народнае Асьветы ў Польшчы, калі ў апошнім школьным законе з дня 11 сакавіка 1932 году падзяліла пачаткавую школу на 3 арганізацыйныя ступені: чатырохгадовую, шасьці-гадовую і сямі-гадовую.

Такая арганізацыйная структура пачаткавага школьніцтва, згодна з ўспомненым апошнім школьнам законам, знаходзіцца ў цеснай сувязі з школьніцтвам прафэсыянальным і толькі ў такой комбінацыі мае пад сабою моцныя лёгічныя і рацыянальныя падставы.

Аднак закон-законам, а жыцьцё-жыцьцём. Лягчэй аказваецца напісаць закон, чымсь правесьці яго ў жыцьцё. Уваходзячы вось ужо ў 3-ці год новае школьнае структуры, мы бачым, што так прыгожа нарысованы плян школьнае будыніны выканаць вельмі трудна. А ўся труднасьць якраз і палягае на тым, што не хапае таго цамэнту, без якога будыніна можа разваліцца Такім цамэнтам зьяўляецца прафэсыянальнае школьніцтва.

І калі дзяржава ня знойдзе неадкладна, яшчэ ў гэтым, а найдалей у наступным школьным годзе, неабходных срэдстваў на вышэйуспамнены цамэнт, дык усёй школьнай будыніне пагражае катастрофа, бо нельга будзе дакончыць сьценаў і гэтым самым накрыць яе, а без страхі, зразумела, размокне і тая частка, якая за гэты час збудована.

Без прафэсыянальн. школьніцтва трудна сабе ўявіць рэалізацыю ўсяе школьнае сыстэмы пачынаючы ад ніжэйшай і канчаючы на вышэйшай. Для пачаткавага-ж школьніцтва яна зьяўляецца найважнейшым. Край адчувае неадкладную патрэбу прафэсыянальных школаў для ўсіх галіноў гаспадарча-экамічнага жыцьця — патрэбны нізшыя і сярэднія школы: сельска-гаспадарчыя розных відаў, самаўрадавае гаспадаркі і коопэрацыі, акушэрныя, гандлёвыя, тэхнічныя, цясельска-сталярскія, кавальска-сьлясарскія, мулярска-печныя, шавецкія, кравецкія, ткацкія і г. д. і г. д.

Зразумела, што організацыя прафэсыянальнага школьніцтва не такая простая і лёгкая рэч, як школьніцтва агульна-пачаткавага. Для апошняга, як ведама, часта хапае амаль-што курнае хаты, пару зэдляў ды ўнедавучка — „прафэсара", які давяршэньне яшчэ ўсіх няшчасьцяў паходзіць недзе з „сьвятое галілеі". Ясна, што пры вышуспомненых абставінах мала што можна на'т і тут зрабіць, але ўсё-ж рэзультат такое недарэчнае пастаноўкі справы вылязе наверх на сьвет Божы ў відзе так часта спатыканага ў нас **паўторнага апальфабэтызму** толькі праз 5-6 гадоў, у галіне-ж прафэсыянальн. школьніцтва пры ўспомненым стане рэчы на'т не пачнем працы.

Усё добрадзейства прафэсыянальнага школьніцтва так з пункту гледжаньня практычнае веды, як і з пункту пазытыўна-узгадаваўчага ўплыву на моладзь якраз і палягае на тым, што рэзультат гэнае працы павінен быць відавочны і для вучыцеля і для вучня і для цэлага ўрэшце грамадзянства ўжо з першага дня. Маной і туманам тут нельга пражыць ані хвіліны — усё відавочна для ўсіх.

Прафэсыянальная школа — гэта неабходная складовая частка народнае культуры — без яе не паднімем на вышэйшы ровень сваe гаспадаркі, не асягнем матар'яльнага дабрабыту, а без апошняга трудна сабе ўявіць які-небудзь поступ у культурна-грамадзкім жыцьці.

*Эра.*

## Савецкі народ.

*Аб'ектыўнаму* наглядчыку кідаецца ў вочы заміраньне савецкіх сымпатыяў сярод беларусаў. Быў час, калі нават ворагі бальшавіцкага рэжыму, гатовы былі верыць, што беларускі П'емонт будуецца на Ўсходзе.

У сапраўднасьці, у свой час БССР была прынамся беларускім культурным П'емонтам. Нават пасьля цэлага раду шагоў супроць беларускага будаўніцтва, *конфронтацыя* беларускіх асягненьняў у БССР з такіміж у іншых дзяржавах, выйшла-б на карысьць БССР.

Выступаючы супроць варожай, бо дэнацыяналізуючай беларусаў, палітыкі бальшавікоў, мусім аднак прызнаць, што існуюць там тысячы беларускіх пачатковых школаў, існуюць вашэйшыя школы, культурныя ўстановы на чале з Беларускай Акадэміяй навук і г. д. Ня бачыць гэтага, значыла-б замыкаць вочы і ня бачыць сапраўднасьці.

Ня глядзячы аднак на гэта мусім зьвяртаць увагу на тыя зьмены, якія ў бальшавіцкай нацыянальнай палітыцы ярка зарысаваліся пасьля 1928/29 году. Мусім пратэставаць супроць барацьбы, якую вядуць сяньня бальшавікі з беларускай культурай.

Беларускага культурнага будаўніцтва бальшавікі яшчэ ня зглумілі. Ды і трудна ім гэта зрабіць. Яны „зьліквідавалі" тварцоў гэтага будаўніцтва, а самому будаўніцтву стараюцца даць іншы зьмест.

Беларускасьць з беларускіх школаў і культурных установ, агулам з культурнага жыцьця выкідаецца самым рашучым спосабам. Замест беларускай культуры, творыцца *савецкая* культура, беларускай яна зьяўляецца толькі географічна.

Перасьледаваньні беларускае культуры ў Беларускае Дзяржаве, вось, што нас дзівіць і абурае. Дзівіць нас наіўнасьць, нікаторых адзінак, якім здаецца што Савецкая Беларусь адыгрывае пэўную ролю нават на міжнародным грунце. Бальшавікі згодна марксыцка-ленінскай доктрынай усё падпарадкуюць палітыцы. У буржуазных гаспадарствах дзеіцца не інакш. Але тут гэтае падпарадкаваньне ня выступае, як догмат, перад якім усё што жывое, мусіць схіляцца.

Супроць такога падпарадкаваньня ўсяго жыцьця палітыцы ня можна было-б мець засьцярог, каб яно давала нам якія колечы карысьці. Беларуская Савецкая Дзяржава мае хіба свае культурныя і палітычныя інтэрэсы. Думаю, што адным з найбольш важных заданьняў Беларускае Савецкае Дзяржавы, гэта разбудовываць сваю дзяржаўнасьць у кожнай галіне. Беларуская Дзяржава павінна быць прыцягіваючай сілай для беларусаў, якія аддзелены ад яе гранічнымі межамі. Ці-ж Нямеччына, або Польшча не апекуюцца немцамі ці палякамі, якія жывуць за граніцамі гэтых дзяржаў? Ці Палякі ў Латвіі, Літве, Нямеччыне, Чэхаславаччыне не спадзяюцца і не атрымліваюць падмогі, змагаючыся за нацыяналістычнымі тэндэнцыямі пануючых народаў?

Няхай сабе Беларуская Савецкая Дзяржава адмовілася-б памагаць нам, прадстаўнікам „крупнай буржуазіі" і „фашыстам". Але ці мае хоць моральную падмогу ад гэтае дзяржавы беларускі парабак, малазямельнік, інтэлігэнт пролетарскага паходжаньня і г. д.? Не. Сумніваюся, каб Савецкая Дзяржава ў будучыні хацела заапекавацца нават сяньнішнімі пролетарскімі пісьменнікамі. А чаму гэта так? Таму толькі, што інтэрэсы беларускае савецкае дзяржавы ў кожнай хвіліне могуць і мусяць быць падпарадкаваны інтэрэсам савецкага Саюзу.

Разправа з т. зв. нацдэмаўшчынай, ліквідацыя ахвосьця нацдэмаўшчыны ў асобах б. паслоў Грамады і Змаганьня была патрэбна дзеля прыгатаваньня атмасфэры для заключэньня польска-савецкае ўгоды. Гэтая ўгода не была ў інтэрэсах Беларускае Савецкае Дзяржавы. Заключаючы гэтую ўгоду Саветы задэкляравалі спыніць нават тую нацыянальную работу, якую ў нас часткова рабіла КПЗБ. Карысьць гэтай работы была праўда малая.

Інтэрэсам вонкавае палітыкі Савецкага Саюзу мусіць быць падпарадкавана ўсё. Але і ўнутраныя прычыны маюць уплыў на тое, што Савецкае Беларусь становіцца, што раз больш выключна географічным паймом.

Унутры Савецкага Саюзу адбываецца вельмі характэрны працэс. Паўстае новы народ. Цікавыя думкі на гэту тэму снуе адзін з віднейшых польскіх публіцыстаў Пясэцкі. Вось што кажа ён:

„Бальшавізм, які зразу кідаў лёзунгі сусьветнай рэвалюцыі, што раз больш нацыяналізаваўся, рабіўся перадусім расейскім, а гэтым самым траціў атракцыяную сілу навонкі. III Інтэрнацыянал. ёсьць цяпер ня вогнішчам сусьветнае рэвалюцыі, але проста інструмэнтам расейскага імпэрыялізму, інструмэнтам загранічнае палітыкі Саветаў. У саветах пачынае адбывацца працэс падобны да таго, які адбыўся ў Францыі пасьля Вялікае Рэвалюцыі. Праграмныя лёзунгі асталіся яшчэ тыя самыя, але іх унутраны зьмест пастулова зьмяняецца. Народныя масы, каторыя вызваліла рэвалюцыя і паклікала да палітычнага жыцьця, унясьлі з сабой сільныя нацыянальныя інстынкты. Нацыянальныя інстынкты народу заўсёды сільнейшыя ад інстынктаў касмапалітызаванай грамадзкай вярхушкі. Гэтыя нацыянальныя інстынкты пакуль што жывуць пад прыкрыўкай савецкай тэрміналёгіі, таму цяжка іх пазнаць, а расейскі імпэрыялізм мае з гэтага яшчэ адну дадатковую карысьць. Русыфікацыя рознаязычных плямён, пражываючых на аграмадным абшары б. царскай Расеі ніколі ня праходзіла так лёгка, як сяньня ў СССР. Нават экстэрмінацыйная палітыка на Украіне, якая ня ўдавалася царскім урадам цяпер пад

# Сьмерць Міхала Грушэўскага.

26 лістапада сёлета памёр у Маскве адзін з найвыдатнейшых вучоных. украінскі гісторык праф. Міхал Грушэўскі, пражыўшы 68 гадоў.

Нябожчык асіраціў дзьве свае монумэнтальныя недакончаныя працы: „Гісторыю Украіны-Русі“, якая абрываецца на мамэнце сьмерці Багдана Хмяльніцкага, і „Гісторыю украінскае літэратуры“.

Апрача свае навуковае працы,—пісаньня аб мінулым Украіны,—нябожчык быў дзейным будаўнічым сучаснае жывое гісторыі украінскага народу. Вялікая расейская рэвалюцыя 1917 году дала магчымасьць усім народам былое імпэрыі самым каваць сваю лепшую долю.

Народ украінскі паставіў прафэсара Грушэўскага на чале Цэнтральнае Украінскае Рады ў Кіеве—гэтага першага рэвалюцыйнага парлямэнту Украіны.

Расказваюць, што, калі, ў часе перавароту на карысьць гэтмана Скарападскага ў 1918 г., зьявіўся ў Цэнтральную Раду нямецкі лейтэнант і скамандаваў усім „устаць“, дык усе сябры Рады машынальна ўсталі, адзін толькі старшыня Рады М. Грушэўскі застаўся спакойна сядзець на сваім месцы, з чырвонымі плямамі, выступіўшымі на твар.

Прафэсар М. Грушэўскі разам з нябожчыкам Сімонам Пятлюраю былі вялікімі прыяцелямі беларускага вызвольнага руху.

Калі ў Берасьці пачаліся ў канцы 1917 і пачатку 1918 году мірныя перагаворы бальшавікоў з Нямеччынай, Украіна, там-жа ў Берасьці, адначасна вяла мірныя перагаворы з коаліцыяй цэнтральных дзяржаваў; высланы туды былі Выканаўчым Камітэтам Усебеларускага Зьезду і беларускія прадстаўнікі, поўнамоцтвы якіх Троцкі апратэставаў і немцы ад перагавораў з Беларусьсю адмовіліся.

Аднак-жа беларускія прадстаўнікі ўсё ж такі былі сьведкамі берасьцейскіх перагавораў, але ўжо, як консультанты ў украінскай дэлегацыі, і гэта, дзякуючы нябожчыку Міхале Грушэўскаму, у той час старшыні Цэнтральнае Рады самастойнае Украіны.

Грушэўскі пабрацку, ці лепш, (як расказваў аўтару гэтых радкоў адзін з беларускіх дэлегатаў) пабацькаўску прыняў у Кіеве беларускую дэлегацыю, адпраўленую немцамі з Берасьця з нічым, заапекаваўся матар'яльна беднаю нашаю дэлегацыяй і дакляраваў зрабіць усё, што можа, каб беларускія дэлегаты атрымалі магчымасьць быць на мірных перагаворах. Дакляраваў і зрабіў.

Пасьля цяжкай крывавай барацьбы Украіны з чырвоным і белым маскоўскім імпэрыялізмам, ёй не ўдалося адстаяць свае незалежнасьці, як не ўдалося гэта і нашай гаротнай Беларусі.

Праф. М. Грушэўскі апынуўся ў бальшавіцкай няволі, хоць і дабравольна вярнуўшыся на Радзянскую Украіну для навуковай працы ў Акадэміі Навук.

У часе разгрому украінскіх культурных сілаў бальшавікі не абмінулі ў 1930 годзе і прафэсара Грушэўскага, ссылаючы яго ў Маскву, дзе яму прышлося жыць у сырым падвале і пад канец жыцьця асьлепнуць ад благіх варункаў істнаваньня. Там, у чужацкай Маскве, ён і пакінуў гэты сьвет, адыйшоўшы туды, скуль няма павароту.

Вялікаму сыну братняй Украіны *чэсьць і вечная памяць!*

*К. М.*

# Анальфабэтызм і барацьба з ім.

Пачаткавая асьвета ў Польшчы ёсьць абавязкавай, г. зн. кожны грамадзянін павінен скончыць прынамся пачаткавую школу, каб умець хоць чытаць ды пісаць. За выпаўненьнем гэтага абавязку пільна сачаць школьныя інспэктары, якія часта нават пры помачы грашовых караў змушаюць бацькоў да пасыланьня сваіх дзяцей у пачаткавую школу. З другога боку вядзецца даволі шырокая акцыя зьбіраньня матэрыяльных срэдстваў маючых быць дапамогай дзяржаве ў разбудове школьных будынкаў, якія сапраўды хутка разрастаюцца. Здавалася-бы, што пры гэткім падыходзе да справы колькасьць анальфабэтаў у Польшчы павінна была-бы з кожным годам зьменшацца і ўжо сяньня быць даволі малой Тымчасам зусім нечакана аказалася, што ў Польшчы існуюць дзесяткі тысяч анальфабэтаў, колькасьць іх стала зьвялічываецца, асабліва хутка і шырака на т. зв. „Wschodnich Kresach“. Мала таго, шпарка начала разрастацца колькасьць т. зв. „паўторных анальфабэтаў“, г. зн. такіх, каторыя хоць ў свой час і пакончылі пачаткавыя школы, але пасьля не практыкуючыся ў чытаньні і пісаньні, сталіся анальфабэтамі паўторна.

І вось, польская прэса ўсіх кірункаў аднагалосна забіла трывогу, шукаючы прычынаў і выхадаў з гэтага. Паводле іх прычынай гэтага зьявішча з аднаго боку мае быць матэрыяльны крызыс, які не дазваляе падняць на належную вышыню пачаткавае школьніцтва і пазашкольную асьвету, з другога боку тое, што польская інтэлігэнцыя мала зьвяртае ўвагі на ўспомненую пазашкольную асьвету. Ідучы за голасам сваёй прэсы польскае грамадзянства думае знайсьці з гэтага выхад ў адумысна створанай акцыі барацьбы з безграматнасьцю. Акцыя гэная мае заключацца ў чытаньні рэфэратаў, распашыраньні кніжак і школаў. Адна з польскіх газэт дык нават з паловы сваей старонкі зрабіла штодзенны лемантар.

Анальфабэтызм лічым зьявішчам вельмі непажаданым і таму можам толькі прывітаць тых, хто прыступіў да барацьбы з ім. Аднак, уважаем, што да барацьбы гэтае трэба падыходзіць вельмі рэчова, выключаючы ўсялякія палітычныя сэнтымэнты і намеры, інакш усе высілкі будуць толькі дарэмнай стратай часу і грошаў.

Добра прыглядзіўшыся справе распашырэньня анальфабэтызму на беларускіх землях, мусім сказаць, што прычынаў яго трэба шукачь у зусім іншым напрамку, чымся гэта робіць польская прэса. На нашых землях ня гэтак ужо і мала пачаткавых школ, ня гэтак і слабая польская акцыя пазашкольнае асьветы, праводжаная даслоўна дзесяткамі розных польскіх арганізацый. Справа тут у тым, што наша моладзь, скончыўшы пачаткавую школу і толькі абмяжоўваючыся ёю, у пераважнай большасьці парывае амаль усе сувязі з польскай мовай, у якой вучылася ў школе чытаць і пісаць, бо ў штодзенным жыцьці карыстаецца гэная моладзь перадусім мовай беларускай. І вось, дзякуючы таму, што сяньня на нашых землях уся пачаткавая грамата цесна зьвязана з польшчынай, нашая моладзь, парываючы з ёю, парывае сувязь як-бы і наагул з граматнасьцю. Беларускіх-жа кніжак ня вельмі шмат ды і ня вельмі лёгка іх дастаць. Такім вось чынамі паўстае успомнены “паўторны анальфабэтызм“. Польская газета „Bunt młodych“ (№ 17166) публічна прызналася, што „Нашых 4 мільёны украінцаў не з'асымілюем“, а мы да гэтага мусім дадаць, што тое самое сяньня можна сказаць і адносна беларусаў. Тымчасам, некаторыя польскія арганізацыі замест праводзіць у народзе акцыю пазашкольнае асьветы, займаюцца тым, што якраз; і адсоўвае народныя масы ад гэтых арганізацый, і ад гэтае асьветы. Беларускіх арганізацый мала, кніжак, як ужо сказалі, таксама мала, і таму вось шпарка і шырака разрастаецца безграматнасьць. Хочучы прыступіць да сапраўды радыкальнае барацьбы з ім, не магчыма абмінаць справу беларускіх школ, пасьля сканчэньня каторых нашая моладзь не парвала-бы ўжо сувязі з граматнасьцю, бо жывая беларуская мова штодзеннаго жыцьця была-бы залогам яе трывальнасьці. Далей неабходна абудзіць у народзе пачуццьцё патрэбы кніжкі, гэта-ж можна асягнуць толькі тады, калі чытач разумее кніжку і яна прамаўляе да яго душы. Дабрацца да душы беларуса наагул вельмі цяжка а і каб прамовіць да яе, то трэба прамовіць толькі ў яго матчынай мове.

Гэткія нашыя думкі і пажаданьні Ясна, што да барацьбы з бязграматнасьцю бел.-народных масаў павінна прыступіць перадусім само бел. грамадзянства бяз

лёзунгам інтэрэсу Саюзу Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік змагла ўзяць новы разгон. Бальшавікі выракліся старых нацыяналістычных расейскіх лёзунгаў, але дзякуючы гэтаму паўстае новы вялікшы лікам народ, каторым і так будуць кіроваць *вялікарусы*—гэта *савецкі* народ.

Працэс гэты яшчэ ня хутка аконччыцца, таксама, як не адразу паўстаў аммэрыканскі народ. Але пачаткі гэтага працэсу мы ўжо бачым... Кожная рэвалюцыя, хоцьбы так антынацыянальная ў сваіх намерах, як комуністычная, падняўшы на верх народныя масы, дакранаецца да нацыянальных інстынктаў, каторыя, як толькі прыгасьне рэвалюцыйны пажар,—пачынаюць дзеяць аўтономічна.

У СССР будуецца цяпер дзяржава для новага *савецкага* народу. Піонеры маюць працы па самыя вушы. Будова вымагае добрае арганізацыі і ўнутранага парадку ў грамадзянстве. Лёзунгі, каторыя гэты парадак нарушаюць адзін за другім выкідаюцца, як непатрэбныя“.

Прыведзеныя разважаньні шмат што нам выясьняюць. Каб стварыць *савецкі народ*, трэба зьнішчыць усе прыродныя асабліўасьці іншых народаў. Вось дзеля чаго пачынаецца паход супроць беларускае культуры. Тварцы культурнага будаўніцтва ў БССР змушаны зрачыся таго, ў што верылі і дзеля чаго працавалі цэлае жыцьцё. „Народныя паэты“ Янка Купала і Якуб Колас мусяць заклеймiць усю папярэднюю сваю творчасьць, новая эра іх творчасьці пачынаецца „покаятельнымі“ лістамі.

Б. паслы Грамады і Змаганьня мусялі трапіць у салавецкія ізалятары, бо аказалася, што праступкі іх адполькава варожыя для грамадзка-палітычнага ладу Польшчы як і СССР. Беларуская граматыка і правапіс зьмяняюцца — саветызуюцца бальшавікамі.

Разгледзяўшы ўсё гэта трэба задумацца над тым, ці беларускія школы, беларускія ўнівэрсытэты, беларускія культурныя ўстановы спаўняюць тую ролю да якой яны былі паклікаты. Адказ сяньня ня трудны.

Толькі людзі, для каторых яшчэ ня так даўно жыцьцёвай праблемай было пытаньне: „ці у блёндына ўлюбіцца блёндынка“ здольныя пераконываць нас, што беларускае культурнае і палітычнае будаўніцтва пачалася ў БССР пасьля 1928/29 году. *Я. З.*

**М. Зошчэнко.**

# Разсказ аб тым, як Сямён Сямёнавіч закахаўся у арыстакратку.

*(Пераклад з расейскае мовы М. Ш.).*

Я, братцы мае, ня люблю баб, каторыя ў капляюшы. Калі баба ў капялюшыку, калі на ёй панчошкі „фельдікосавыя“, або на руках у яе мопсік, або залаты зуб, дык такая арыстакратка мне і ня баба, а гладкае месца.

А ў свой час я, ведама, захопліваўся аднэй арыстакраткай. З ёй гуляў і вадзіў у тэатр. У тэатры ўсё і вышла. У тэатры яна і разьвярнула сваю ідэолёгію ўва ўсім абыйме.

Спаткаўся я з ёй у панадворку дома. На сходзе. Гляджу, стаіць гэткая сабе фра. На ёй панчошкі, зуб залочаны.

— Адкуль—пытаю—ты грамадзянка? З якога нумару?

— Я—кажа,—з сёмага.

— Калі ласка,—кажу, жывіце.

І адразу яна мне неяк спадабалася. Зачасьціў я да яе. У сёмы нумар. Бывала, як афіцыяльная асоба. Маўляў, як у вас грамадзенка, у сэнсе сапсаваньня вадаправоду і ўбіральні? Працуе?

— Але—адказвае—працуе.

І сама закутваецца ў байкавую хустку і больш ні мур-мур. Толькі стрыжэ вачмі. І зуб у роце блішчыць. Пахадзіў я да яе месяц—прывыкла. Пачала падрабязна адказываць. Маўляў, працуе вадаправод, дзякую вам Рыгор Іванавіч.

Далей — болей, пачалі мы з ёй гуляць па вуліцах. Выдзім на вуліцу, а яна загадвае сябе ўзяць пад руку. Вазьму яе пад руку і валачуся, усё роўна, як шчупак. І што сказаць—ня ведаю, і перад народам сорамна.

Ну, а раз яна мне гаворыць:

— Што вы, кажа, мяне па вуліцах водзіце? Аж галава закруцілася. Вы-б, кажа, як кавалер і пры ўладзе, завялі-б мяне, напрыклад, у тэатр.

— Можна,—кажу.

І як-раз на другі дзень прыслала комячэйка ў опэру білеты. Адзін білет атрымаў я, а другі ахвяраваў мне Васька—сьлёсар.

На білеты я не паглядзеў, а яны розныя. Каторы мой—сядзець унізе, а каторы Васькін—аж на самай галубятні.

Вось мы і пайшлі. Селі ў тэатр. Яна села на мой білет, я на Васькін. Сяджу на вышках і ні храна ня бачу. А калі-б нагнуцца праз бар'еру, дык яе бачу. Хаця дрэнна.

Пасумаваў я, пасумаваў, зыйшоў уніз. Гляджу—антракт. А яна ў антракце ходзіць.

— Добры дзень—кажу.

— Добры дзень.

— Цікава, — кажу — ці ў парадку тут вадаправод?

— Ня ведаю,—кажа.

І сама прэцца ў буфэт. Я за ёй. Ходзіць яна па буфэце і глядзіць на стол. А на стале паднос. На падносе піророжныя.

А я гэткім гусём, гэткім нерэзаным буржуям уюсь навокал яе і прапаную:

— Калі,—кажу, — вам ахвота зьесьці адно піроражнае, дык ня стыдайцеся. Я заплачу.

— Мэрсі,*)—кажа.

*) дзякую (франц.).

# Клопаты польскіх культурнікаў.

Чытач віленскіх польскіх газэт зьвярнуў напэўна ўвагу на культурныя клопаты розных польскіх арганізацый і паасобных адзінак. Справа ў тым, што польскія культурныя арганізацыі ўважаюць за свой абавязак пашыраць польскую культуру на т. зв. крэсах, інакш кажучы беларускіх землях. З мэтай сцэнтралізаваньня польскае культурнае працы была ў мінулым годзе створана спэцыяльная арганізацыйная адзінка ў склад якое ўвайшлі паасобныя прафэсыяльныя культурныя саюзы, як саюз польскіх літэратараў, мастакоў, плястыкаў, бібліофіляў, драматычных артыстаў і г. д.

Тварцы Рады спадзяваліся ад яе шмат. Тымчасам аказалася, што Рада апрача ад'емных рэзультатаў ніякіх іншых амаль не дала. Культурныя імпрэзы, якія Рада ладзіла далей Вільні ня пашлі. Ды і ў Вільні асаблівым пасьпехам, яны не цешыліся. Дайшло нават да таго, што між польскімі культурнымі дзеячамі паўсталі спрэчкі. Дуэлі і судовыя працэсы вось відавочны пакуль што рэзультат праектаванага культурнага місыянэрства.

Каб ратаваць скампрамітаваную Раду (Rada Wileńskich Zrzeszeń Artystycznych) нядаўна паўстала новая культурная арганізацыя. Завецца яна Ізба Прапаганды Культуры. Перад яе паўстаньнем быў скліканы зьезд польскіх культурных працоўнікоў з розных куткоў Беларусі. На гэтым зьезде пераважалі, як падае польская газэта „Słowa“ людзі, якія нічога супольнага з нашым краем ня мелі.

Тварцы Ізбы Прапаганды Культуры думаюць разьвярнуць культурную працу ня толькі ў Вільні, але і на вёсцы. Шмат надзеі яны ўскладаюць на польскае вучыцельства.

Наіўным аднак выдаецца тое, што гэтыя людзі хочуць весьці культурную працу сярод нашага народу тымі самымі мэтадамі і срэдствамі, як у іншых чыста польскіх ваколіцах.

Досьледы дасюлешняе культурнае працы нічога не навучылі. Ці-ж тварцы Ізбы Прапаганды Культуры ня ведаюць, што пачынаньні іх папярэднікаў радзіліся і паміралі натуральнай сьмерцяй у гарадзкіх асяродзьдзях Беларусі?

Ня нэгуем патрэбы польскае культурнае працы сярод польскага элемэнту нашага краю. Але якія рэзультаты дасьць культурная праца, ведзяная сярод беларускага насельніцтва людзьмі, якія ня разумеюць патрэбаў беларускага народу, ды *якім зусім чужая псыхіка беларуса*. Падняць культурны ровень насельніцтва нашага краю, гэта справа аднолькава важная для ўсіх, але падняць яго можна толькі ў тым выпадку, калі падыйдзем да жыхара нашага краю ў роднай яго мове, з роднай яму культурай. Інакш „шкада часу і атласу“.

Шкода грошай і людзкое энэргіі на ўспомняную Ізбу Прапаганды Культуры, калі яна мае абаперціся ў сваей працы на польскай культурнай вылучнасьці.

Трэба пашыраць культуру перш на-перш у роднай мове г. зн. сярод беларусаў — у беларускай, а ў часе гэтага знойдзецца зусім натуральна месца і для культуры польскай.

Амбіцыі адзінак і бюрократызацыя культурных пачынаньняў не спрыяюць праўдзівай культурнай працы. Карысьць з яе будзе малая.

*Місевіч.*

---

розніцы палітычных поглядаў.

Анальфабэт гэта чалавек цёмны, знача і нясьведамы, а ўсе мы імкнемся да таго каб гэту нясьведамасьць выкараніць у народзе. Ня шмат нас бел. інтэлігенцыі і не багатыя мы, аднак наш добра сарганізаваны і пляновы высілак у гэтым напрамку можа яшчэ што зрабіць.

Працу гэнаю трэба пачаць неадкладна і праводзіць сумленна, бо інакш тая прорва, якая ўжо сяньня зарысоўваецца між беларускай інтэлігэнцыяй і народнымі масамі, у найбліжэйшых часох можа яшчэ больш паглыбіцца. А народную цемру пачнуць выкарыстоўваць сілы цёмныя і варожыя нам.

*Эс.*

---

# Гаспадарчы аддзел.

## Даглядайма свае сады.

Садовыя дрэвы трэба гнаіць і даглядаць, як і іншыя гаспадарчыя расьліны. Да гнаеньня і перакопваньня зямлі ў садзе трэба прыступіць у восені, каб, такім чынам, к вясеньняму прабуджэньню дрэў вытварылася ў глебе патрэбная колькасьць прыступных для карэньняў пажыўных складнікаў.

Пры гнаеньні глебы трэба мець на ўвазе, што гнаіць блізка пня ніколі нявартa, бо найболей валакністых каранёў, якімі дрэва прыймае пажыву, знаходзіцца пад обводам кароны. Добрым спосабам гнаеньня старэйшых дрэваў — гэта дадаваньне гною (добра перагніўшага) у равок, выкапаны на штых глыбінёю пад обводам кароны. Другім, вельмі добрым спосабам пасіленьня дрэў ёсьць павярховае ўгнаеньне, якое праводзіцца наступна: на перакопаную пад каронамі дрэў зямлю кладзецца пласт гною, адступіўшы 15-20 цэнтымэтраў ад пня. Голае месца наўкола пня пакідаецца дзеля таго, каб часам не завяліся мышы, або не надапрэла кара. Апрача хлеўнага гною, карысна ўжыць і штучных гнаёў, калі на гэта ,маюцца срэдствы.

Апрача гнаеньня зямлі, трэба яшчэ працярабіць карону, каб зрабіць магчымасьць на вясну правідловы рух сокаў у дрэве. Большасьць практыкаў цьвердзіць, што вясеньняя абрэзка пхне дзерава бaлей да росту, тымчасам, як васеньняя—спрыяе ўтварэньню пладовых пупішкаў.

Працярэбленьне кароны павінна рабіцца ўважна. Вырэзваць можна, агулам кажучы, галінкі пашкоджаныя, хворыя, вельмі загушчаныя і ваўчкі; пры гэтым трэба старацца, каб вышэйшыя галінкі не расьлі за кошт ніжэйшых, чаму можна запабегчы ўкарочваньнем вышэйшых галінак.

Далейшаю працаю ў садзе ёсьць скрабаньне і бяленьне дрэваў. Ачысьціць дрэвы ад старое кары і моху трэба дзеля таго, каб зьнішчыць шкоднікаў, якія знаходзяцца ў старой кары і шчылінах, і даць магчымасьць да пня прыступ цяпла і паветра. Маладыя дрэўцы з гладкаю карою ня трэба скрабці, а хопіць пашараваць іх шчоткай намочанай у мыльнай вадзе.

Пасьля скрабаньня, трэба дрэвы яшчэ выбеліць вапенным малаком, каб зьнішчыць рэшту шкоднікаў, якія засталіся ў шчылінах. Апрача таго, пабеленае дрэва менш церпіць у канцы зімы ад марозаў. Вельмі карысна, дзеля барацьбы са шкоднікамі, апрыскаць усё дрэва вапенным малэком, карыстаючыся спэцыяльнымі для гэтага апрысківачамі. Калі апрысківача няма, то трэба хаця пень і таўшчэйшае гальлё, покуль можна дастаць пэнзэлям, абмазаць вапенным малаком. Каб вапна лепей трымалася кары, радзіцца да вапеннага малака дадаць крыху гліны або каровячага калу. Каб такая абмазка пэўней зьнішчала розных шкоднікаў, рэкамэндуецца да яе дадаваць жалезнага купарвасу ($1^{1}/_{2}$ кг. вапны і 400 гр. жалезн. купарвасу на вядро вады). Карысна ў пабелку дадаваць драўесны попел.

*З. К.*

---

# З газэт.

„Бел. Крын.“ піша, што „нікаторыя з абітур'ентаў“ віл. бел. гімназіі запісываюцца ў Расейскі Студэнцкі Саюз, выракаючыся беларускага імя. Вось-жа „Бел. Крын.“ пытае, што гэта значыць і тут-жа заяўляе, што гэта сьведчыць „аб браку ў гэтай гімназіі беларускага духу“.

Нам здаецца, што гэты факт аб „духу“ гімназіі нічога ня кажа. Справа тут у іншым. Былі ў нас беларускія арганістыя беларускіх ксяндзоў а якія пасьля сталіся бязбожнікамі ды ворагамі Беларусі або „найпралетарчэйшымі“ паэтамі, ёсьць у нас урабеларускія нацыянальныя камітэты (!) ёсьць у нас і „Бел. Крыніца“ з аргумэнтамі, ну словам тыя „нікаторыя“ бачучы ўсё гэта, а будучы яшчэ не загартаванымі проста такі здэмаралізаваліся дый толькі. Словам, старая ў жыцьці гісторыя, школа ўзгадоўвывае, а вуліца ў гэты час дэмаралізуе, „нікаторых“ кволых часта і зусім ламае, бязумоўна шкада іх!

---

# З царкоўнага жыцьця.

*Выступленьні супроць архіеп. Аляксея.* Расейцы ўсё яшчэ ня могуць ніяк прабалець таго, што архіеп. Аляксей адсунуў іх ад кіраваньня Валынскай эпархіяй і абапёрся на ўкраінцаў. Адзін час здавалася, што расейская прэса нарэшце пагадзілася з гістарычнай праўдай і справядлівасьцяй, але вось апошнім часам яна пачала ізноў нападаць на архіеп. Аляксея, усяляк стараючыся падарваць яго аўтарытэт. Наглядаючы ўсё гэта, беларускае праваслаўнае грамадзянства павінна арганізавацца, бо і яно будзе змушана ўрэшце стаць на шлях барацьбы за сваю царкву, або інакш расейцы яе загубяць.

*Склад Камісіі.* У камісію паперакладу праваслаўных літургічных тэкстаў з царк.-славянскае на польскую мову вызначаны наступныя асобы: старшыня — епіскап Люблінскі Савва, яго намесьнікам—архім. Фаафан, сябрамі: архім. Ілярыён Васдэкс, архім. Рыгор Перадзэ, протопрэсв. Сымон Федоронько і прат. Віктар Романовскі.

27. XI. 34 адбылася першае паседжлньне Камісіі і надалей будзе адбывацца штотыдзень па аўторкам.

---

# Беларуская хроніка.

— У нядзелю 25 лістапада г. г. ў салі Дзяржаўнай Беларускай Гімназіі была зладжана вучнямі Духоўнай Сэмінарыі з удзелам вучаніц Гімназіі спэктакль-верарына, пад кіраўніцтвам вуч. Хв. Ільяшэвіча. Паставілі: „У зімовы вечар“ Э. Ожэшковай. Пасьля спэктаклю вельмі прыгожа пяяў сэмінарскі (мужчынскі) хор пад кіраўніцтвам гр. Матвейца. У праграму хору ўвайшлі: беларускія, польскія, украінскія і расейскія песьні. На заканчэньне адбыліся танцы.

*т.*

(Працяг на 4-тай стар.),

---

І раптам падыходзе разпушчанай паходкай да падносу, цоп з крэмам і жрэць.

А грошай у мяне — кот наплакаў. Самая вялікая, што за тры пірожных. Яна есьць, а я непакойны шукаю па кішанёх, гляджу рукой, колькі ў мяне грошай. А грошай з гулькін нос

Зьела яна з крэмам, цоп другое. Я аж кракнуў. І маўчу. Узяў мяне такі буржуйскі сорам. Маўляў, кавалер, а не пры грашах.

Я хаджу навокал яе, як пятух, а яна сьмяецца і напрашваецца на комплімэнты.

Я кажу:

— Ці не пара нам сесьці ў тэатр? Можа званілі.

А яна кажа:

— Не.

І бярэ трэцяе.

Я кажу:

— Нашча — ці ня многа? Можа званітаваць.

А яна:

— Не,—кажа,—мы прывыкшы.

І бярэ чацьвертае.

Тут стукнула мне кроў у галаву.

— Кладзі,—кажу—назад!

А яна спужалася. Адчыніла рот. А ў роце блішчыць зуб.

А мне ўсё роўна, як-бы ляйчына пад хвост папала. Усё роўна, думаю, цяпер ня гуляць з ёй.

— Кладзі,—кажу,—к чортавай мацеры!

Палажыла яна назад. А я пытаю гаспадара:

— Колькі з нас за зьедзеныя тры пірожныя?

А гаспадар трымаіцца індыфэрэнтна**).

— З вас,—кажа,—за зьедзеныя чатыры штукі столькі і столькі.

— Як,—кажу, за чатыры? Калі чацьвертае знаходзіцца ў паўміску.

— Не,—адказвае,—хаця яно і ў паўміску знаходзіцца, але на ім зроблены надкус і зьмята пальцамі.

— Як,— кажу, надкус, даруйце. Гэта вашы сьмешныя фантазыі.

А гаспадар трымаецца індыфэрэнтна — перад мордай рукамі круціць.

Ну ведама, сабраўся народ. Экспэрты. Адны кажуць—зроблены надкус, другія — не.

А я вывернуў кішэні — усякая ведама, барахло на падлогу вывалілася—народ сьмяецца А мне ня сьмешна. Я лічу грошы.

Злічыў грошы — у абрэз за чатыры штукі. Дарма, маць чэсная, спрачаўся.

Заплаціў. Зварочваюся да дамы:

— Даядайце,—кажу,—грамадзянка. Заплочана.

А дама ня рухаецца. І стыдаецца даядаць.

А тут падкруціўся нейкі дзядзька.

— Давай,—кажа,—я даем.

І даеў, сволач. За мае-ж грошы.

Селі мы ў тэатр. Даглядзелі опэру. І дамоў.

А каля дому яна мне і кажа:

— Досыць сьвінства з вашага боку. Каторыя бяз грошай—ня езьдзяць з дамамі.

А я кажу:

— Не ў грошах, грамадзянка, шчасьце. Выбачце за выражэньне.

Так мы з ёй і разышліся.

Не падабаюцца мне арыстакраткі.

---

**) абы як.

